*Цэнтр «Усход-Захад» пад пагрозай закрыцця (стар. 2)*
*Грамадзянка Канады Ганна Палеўская (Драўгяліс) ужо 36 гадоў фактычна зняволеная ў Беларусі (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты СВАБОДА
Наклад 32.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 1 кастрычніка 1997 г. № 108 Кошт свабодны

## Крамлёўскія чыноўнікі лётаюць, а Шарамет сядзіць

**У панядзелак па даручэнні прэзідэнта Барыса Ельцына ў Мінск прыбыў віцэ-прэм'ер расійскага ўрада Валерый Сяроў.**

Спачатку ён сустрэўся з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам і абмеркаваў комплекс праблемаў, якія ўзніклі ў расійска-беларускіх адносінах. Потым Валерый Сяроў накіраваўся на аўдыенцыю ў прэзідэнцкую рэзідэнцыю, каб апроч іншага нагадаць Лукашэнку пра яго дамоўленасць з Ельцыным аб вызваленні з турмы карэспандэнта ОРТ Паўла Шарамета. Сустрэча адзін на адзін працягвалася больш за гадзіну. Па словах кіраўніка прэзідэнцкай прэс-службы Валерыя Талкачова, *«галоўнай тэмай размовы была праблема ўмацавання эканамічных сувязяў у рамках саюза Расіі і Беларусі, удасканаленне мытных пагадненняў, а таксама праблема сродкаў масавай інфармацыі»*. В.Талкачоў сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што лёс расійскага журналіста Паўла Шарамета *«будзе вырашацца на аснове дамоўленасцей, дасягнутых у Маскве 6 верасня»*. Іх сэнс, маўляў, прэзідэнт Лукашэнка акрэсліў у час візіту ў Алматы. Гэта азначае, што *«праблема Шарамета больш не будзе абмяркоўвацца на вышэйшым дзяржаўным узроўні»*.

Віцэ-прэм'ер В.Сяроў сказаў журналістам, што даручэнне Ельцына датычыць расійска-беларускага саюза. Ён адзначыў, што прэзідэнт Лукашэнка пасля візіту ў Індыю павінен заняцца расійскімі карэспандэнтамі на аснове *«ранейшых дамоўленасцей»*. Каб зняць напружанасць, прэзідэнт Лукашэнка паабяцаў садзейнічаць акрэдытацыі ў Мінску тэлежурналіста ОРТ Уладзіміра Фашэнкі. *«Добра, што хоць адзін рускі чалавек будзе працаваць у Беларусі»*, — сказаў Лукашэнка на сустрэчы з расійскім віцэ-прэм'ерам.

Адразу пасля сустрэчы з беларускім прэзідэнтам В.Сяроў паляцеў у Маскву, каб дакласці Крамлю вынікі перамоваў. А сёння, 1 кастрычніка, Сяроў павінен зноў быць у Мінску на паседжанні прэзідыума міждзяржаўнага эканамічнага камітэта СНД.

Як адзначаюць аглядальнікі, палітычныя вынікі візіту расійскага віцэ-прэм'ера могуць быць вельмі адчувальнымі. У выпадку, калі Павел Шарамет застанецца за кратамі, наўрад ці прэзідэнта Лукашэнку прымуць у расійскіх губернях, куды ўжо запланаваныя візіты. Дзверы могуць зачыніцца ў самы апошні момант, як гэта было ў Калінінградзе.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Прэзідэнт Беларусі траціць давер у Расіі

**Як сведчаць сацыялагічныя апытанні, за апошнія 10 месяцаў амаль удвая скарацілася доля расіян, якія давяраюць прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку.**



*Сёння ў Расіі Лукашэнка можа разлічваць толькі на 1% галасоў.*

Напрыклад, калі ў снежні мінулага года яму давяралі 17% расійскіх грамадзян, то да цяперашняга верасня іхні лік скараціўся да 9%. Адпаведна, калі летась Лукашэнку не давяралі 23% рэспандэнтаў, то сёлета — 54%. Разам з тым трэба адзначыць, што за гэты час адносіны расіян да Лукашэнкі сталі больш пэўнымі: калі ў снежні 1996 года не здолелі выказаць свае адносіны да беларускага лідэра 42% расіян, то цяпер такіх засталося толькі 25%.

Такую інфармацыю прадаставіў фонд «Грамадская думка». Сацыёлагі выкарысталі дадзеныя агульнарасійскіх апытанняў гарадскога і вясковага насельніцтва, праведзеных 5 кастрычніка і 7 снежня 1996 года, а таксама 6 і 13 верасня 1997 г. У кожным апытанні ўдзельнічала па 1.500 рэспандэнтаў.

Больш за ўсё тых, хто давярае Лукашэнку, сярод прыхільнікаў лідэра КПРФ Генадзя Зюганава: у ягоным электараце 20% давяраюць беларускаму прэзідэнту, 34% — не давяраюць. Прыкладна такія ж суадносіны адказаў і сярод прыхільнікаў ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага. Іншая думка ў электарату лідэра «Яблока» Грыгорыя Яўлінскага: давяраюць Лукашэнку 5%, не давяраюць — 54%.

Наконт таго, ці сапраўды Лукашэнка імкнецца заняць пасаду прэзідэнта пасля аб'яднання Расіі і Беларусі, меркаванні раздзяліліся: 35% згодныя з гэтым, 43% так не думаюць. Па дадзеных апытанняў, 70% расіян паставіліся б адмоўна, каб Лукашэнка заявіў, што намераны балатавацца на пасаду прэзідэнта Расіі. У выпадку, калі б прэзідэнцкія выбары адбыліся сёння, усё, на што мог бы разлічваць Лукашэнка, — гэта 1% галасоў.

*Інтэрфакс*

## Пікет для Лукашэнкі

**У суботу ў Маскве, ля будынка беларускага пасольства актывісты Саюза рускага народа, Рускай нацыянальнай партыі і іншых малалікіх арганізацый правялі пікет у падтрымку Лукашэнкі.**

Пікетчыкі (усяго каля 80 чалавек) трымалі ў руках царкоўныя абразы, харугвы, плакаты з надпісамі *«Лукашенко — да, врагам — нет!»*, *«Лукашенко, ты прав!»*, *«Чем ниже рейтинг Лукашенко у Сванидзе, тем выше он у русского народа»*, *«Шеремета после отсидки — на историческую родину!»*, *«Свет из Белоруссии — могильный мрак для Ястржембских»*, *«Лукашенко — в президенты России»* і да т.п.

Удзельнікі пікету перадалі прадстаўнікам пасольства зварот да Лукашэнкі, а таксама асудзілі *«провокационную деятельность ОРТ и других антирусских средств массовой информации»*.

## Небяспечная труба

**Неадкладнага рамонту патрабуе магістральны нафтаправод «Дружба», які праходзіць па тэрыторыі Беларусі.**

Наваполацкае і Гомельскае прадпрыемствы па транспарце нафты выказваюць сур'ёзную заклапочанасць тэхнічным станам нафтаправода. Нафтаправод «Дружба» эксплуатуецца ўжо доўгі час — каля 33 гадоў. З пачатку года па беларускай частцы нафтаправода было транспарціравана 50,2 мільёна тон нафты, у тым ліку 42,4 мільёна тон расійскага транзіта. Праз нашую тэрыторыю нафта з Расіі транспартуецца ў Літву, Украіну, Польшчу, Германію, Чэхію, Венгрыю і Славакію. Аднак расійскі бок не спяшаецца ўкладваць грошы ў тэхнічнае забеспячэнне нафтаправода, а Беларусь з пачатку года ўжо выдаткавала на гэтыя мэты амаль 11 млн. долараў.

*БелаПАН — Інтэрфакс*

## Эпідэмія гепатыту прыйшла з вадой

**У Давыд-Гарадку Столінскага раёна працягваецца эпідэмія віруснага гепатыту. Шпіталізавана больш за 60 дарослых і дзяцей.**

Як сказаў галоўны санітарны ўрач Столінскага раёна, эпідэмія пачалася ў ліпені і працягнецца яшчэ пэўны час, бо цяпер самы пік захворвання. Узбуджальнікі гепатыту знойдзены ў вадаправоднай вадзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка», а таксама ў некаторых калодзежах.

У якасці прафілактычных мераў праведзена санітарная апрацоўка 300 студняў, абследаваны персанал грамадскіх кропак харчавання і дзіцячых установаў. У выніку выяўлена яшчэ 12 носьбітаў вірусу. Гепатыт зафіксаваны ў Століне і іншых населеных пунктах Столінскага раёна (усяго каля 70 выпадкаў). Як сведчыць статыстыка, Брэсцкая вобласць — самая «гепатытная» ў нашай краіне.

**Віталь МЕЛЕЦ**

## *Сёння, 1 кастрычніка, — Дзень пажылога чалавека*



**По рашэнні ААН штогод 1 кастрычніка адзначаецца Дзень пажылога чалавека.**

Цяпер у Беларусі больш за 2 мільёны пенсіянераў — пятая частка насельніцтва нашай краіны. Гэтыя людзі пражылі надзвычай цяжкае жыццё, але старасць аказалася для многіх з іх зусім катастрафічнай. Асабліва цяжка сёння адзінокім старым. Давайце азірнемся вакол сябе — і хто чым можа дапаможам такім людзям.

## БНФ супраць «Совершенно секретно»

Спецыяльнай заявай адрэагавала кіраўніцтва Беларускага народнага фронту на тэлеперадачу «Совершенно секретно», апошні выпуск якой, прысвечаны беларускаму прэзідэнту, быў паказаны 27 верасня па тэлеканале РТР. Абурэнне кіраўнікоў БНФ выклікаў «творчы метад», абраны аўтарамі перадачы для стварэння тэлепартрэта А.Лукашэнкі. *«Цяжка казаць аб прафесіяналізме ў выпадку, калі аўтары, малюючы вобраз палітыка, забываюцца пра ягоныя ўхвалы гітлераўскаму рэжыму, пра палітычных вязняў у сённяшняй Беларусі ці хаця б пра тое, што іх калега Павел Шарамет дагэтуль сядзіць за кратамі па загадзе Лукашэнкі»*, — дзеліцца сваімі назіраннямі намеснік старшыні БНФ Юрась Беленькі, які, дарэчы, толькі што адседзеў 10 сутак за палітычную дзейнасць.

Беленькі звярнуў увагу не толькі на замоўчванне істотных фактаў, але і на яўныя фальсіфікацыі. Найбольш цынічны прыклад такой фальсіфікацыі кіраўніцтва БНФ убачыла ў ілжы, якая прагучала з экранаў у адрас бацькі старшыні БНФ Зянона Пазьняка. *«У Беларусі добра вядома, што Станіслаў Пазьняк змагаўся з фашыстамі ў складзе Чырвонай Арміі і загінуў у снежні 1944 года ў Польшчы. Называць яго «фашыстоўскім калабарантам», як гэта прагучала ў перадачы «Совершенно секретно», — не проста паказчык нізкага прафесіяналізму. Гэта абраза памяці ўсіх ахвяраў вайны, за якую трэба несці адказнасць як за прапаганду фашызму»*, — лічаць кіраўнікі БНФ.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Грыб намераны змагацца

**Былы старшыня Вярхоўнага Савета генерал міліцыі Мечыслаў Грыб хоча стаць адвакатам. Аднак гэтага не хочуць улады.**

Напрыканцы мінулага тыдня Мінскі гарадскі суд разглядаў скаргу экс-спікера Вярхоўнага Савета 12-га склікання Мечыслава Грыба на міністэрства юстыцыі, якое адмовіла яму ў выдачы адвакацкай ліцэнзіі. Суддзя Іна Яблыкава адхіліла пададзеныя М.Грыбам хадайніцтвы і пацвердзіла рашэнне Маскоўскага райсуда, які не задаволіў пададзеную экс-спікерам скаргу на дзеянні мінюста.

Каментуючы рашэнне суда, Мечыслаў Грыб сказаў, што ён мае намер паслядоўна дабівацца ісціны — аж да камісіі па правах чалавека ААН, але спачатку пройдзе ўсе беларускія інстанцыі. Як сказаў экс-спікер, *«няхай яны пакажуць свае прафесійныя якасці»*.

*БелаПАН*

**Паважаныя чытачы! Учарашні нумар СВАБОДЫ не выйшаў у свет па тэхнічных прычынах — у самы апошні момант даў збой рэдакцыйны камп'ютэрна-выдавецкі комплекс. Прыносім прабачэнні і ў якасці кампенсацыі сённяшні нумар газеты выпускаем падвойным аб'ёмам.**

**РЭДАКЦЫЯ**

# Быхаўская «амерыканка»

## *Грамадзянка Канады Ганна Палеўская (Драўгяліс) ужо 36 гадоў фактычна зняволеная ў Беларусі*

Мясцовыя людзі называюць яе «амерыканкай», хоць на самой справе яна літоўка, нарадзілася ў Магілёве, мае грамадзянства Канады, а жыве ў райцэнтры Быхаў Магілёўскай вобласці. 83-гадовая Ганна Вікенцьеўна Палеўская пражыла тут апошнія 36 год, у яе ёсць савецкі пашпарт на імя Ганны Драўгяліс, мясцовая прапіска, яна атрымлівае сацыяльную пенсію ў 240 тысяч рублёў і ўвесь гэты час спадзяецца з'ехаць назад, у Канаду, каб пабачыць магілу мужа і даведацца пра сына.

### Нямеччына – Канада – Беларусь

Гэтая гісторыя пачалася ў часы апошняй вайны. Тады 27-гадовая Ганна была ў ліку тых, каго немцы вывезлі ў Германію. Там жанчына працавала на заводзе да самага заканчэння вайны, а калі паўстала пытанне, ці вяртацца ў Савецкі Саюз, Ганна вырашыла гэтага не рабіць. Было шмат чутак, што тых, хто вярнуўся, чакаюць сталінскія лагеры.

Ганна праз адну амерыканскую арганізацыю трапіла ў ЗША і там выйшла ў 1947 г. замуж за такога ж «невяртальніка» Рафаіла Палеўскага. Палеўскі неўзабаве атрымаў працу на рускай секцыі Канадскага радыё, і сям'я пераязджае ў Манрэаль. Там у 1953 годзе нарадзіўся сын Віктар. І ўсё было б добра, але ў 1961 годзе, падчас хрушчоўскай адлігі, Ганна Вікенцьеўна вырашыла наведаць родныя мясціны, пабываць на магіле маці. Яна кажа, што тады ўжо не баялася ехаць у СССР, бо ведала, што рэпрэсіі скончыліся. Яна спадзявалася пажыць у Беларусі год-два разам з 8-гадовым Віктарам, і той падвучыць рускую мову. Адна спачатку Ганна паехала адна, каб агледзецца, уладкавацца і ўжо тады запрасіць сына.

### У пастку

Палеўская без праблем атрымала візу, прыехала ў СССР — і больш яе ўжо з Саюза не выпусцілі.

Што адбывалася потым, пасля 61-га, сёння ўзнавіць дакладна, відаць, немагчыма. 83-гадовая жанчына ўжо не ўсё памятае, пэўныя рэчы блытае... Тым не менш, вядомыя асобныя дэталі і ёсць неабвержныя факты. Перад атрыманнем візы для ўезду ў Савецкі Саюз Ганне Палеўскай супрацоўнікі савецкага пасольства падалі анкету, дзе яна ўжо была запісаная пад дзявочым прозвішчам Драўгяліс. У той жа анкеце запісана, што яна мае толькі савецкае грамадзянства. Ёй кажуць: гэта толькі фармальнасці, у Савецкім Саюзе вас пад іншым прозвішчам не ведаюць.

Ганна падпісала анкету — атрымалася, што прысуд самой сабе. У СССР ёй выдалі савецкі пашпарт на прозвішча Драўгяліс і настрашылі, што без такога дакумента яна трапіць у турму. Так канадка Ганна становіцца савецкім чалавекам з усім наборам бяспраўя і прыніжэння.

### Усе баяліся

Ёй давялося пасяліцца ў збітым з дошак доме яшчэ ваенных часоў, які застаўся ад маці. Хацела працаваць хоць дзе, хоць кім — не дазвалялі. Ганна Вікенцьеўна кажа, што амаль кожны дзень хадзіла ў райкам партыі, але ёй увесь час казалі прыйсці пазней, тлумачылі, што без прапіскі дапамагчы не могуць. *«Мяне ўсе баяліся,* — кажа Ганна Палеўская, — *калі іду адна, дык яшчэ кіўнуць, а калі нехта ёсць побач — то нібыта і не заўважаюць».*

Да яе быў спецыяльна прыстаўлены гэбіст. Ён заходзіў да яе і распытваўся, што рабіла, дзе была. Жыла ж Ганна Вікенцьеўна ў асноўным са свайго «бізнесу» на рынку (гандлявала прадуктамі з уласнага гарода) і з таго, што каму-небудзь шыла. Праўда, пакупнікоў ды кліентаў было зусім мала.



*Ганна Палеўская (Драўгяліс) захоўвае ўсе свае лісты.*

У доміку пражыла аж да 80-х, калі яго знеслі, а ўзамен далі аднапакаёўку і сацыяльную пенсію: было 5, потом 15, а цяпер 240.000 рублёў.

### Зусім адна

Хутка Драўгяліс зразумее, што памылілася, прыехаўшы сюды. Пачынае пісаць лісты, каб адпусцілі дадому ў Канаду. Яны падобныя адзін да аднаго, захаваліся чарнавікі: *«Меня приняли очень плохо, работы не давали, жить было негде. Мать умерла еще до моего приезда. Я осталась одна. Муж сына, конечно, не прислал. Я начала проситься назад в Монреаль, а назад меня не пускают... Мне здесь очень тяжело...»*

Гэтыя лісты пайшлі ў нікуды. З кіраўнічых вышынь адказаў не было. Адна з апошніх спробаў вырвацца з палону была недзе ў 70-х. Тады Драўгяліс паехала ў Маскву і паспрабавала трапіць у канадскае пасольства. Яе арыштавалі на ўваходзе.

У 1962 да Драўгяліс прыходзіць ліст з Канады ад адвакацкай канторы *Masse & Masse*, у якой яе просяць паведаміць, ці пацвярджае яна свой развод з мужам Рафаілам. «Развод» быў для Ганны Вікенцьеўны поўнай нечаканасцю. *«Я ніколі не адмаўлялася ад свайго шлюбу,* — кажа яна, — *але ў савецкім пасольстве ў Канадзе ўсе дакументы, што тычацца майго сямейнага становішча, у мяне забралі. Казалі, што вернуць у СССР. З тых часоў я іх не бачыла».* Пасля адвакаты паведамляюць Ганне Вікенцьеўне, што ў сувязі з немагчымасцю яе выезду ў Канаду яны не ў стане вырашыць з ёй пытанне спадчыны (з ліста вынікае, што муж памёр у 1967 г.).

Больш ніякіх звестак з-за мяжы не было аж да 1996 г. Ці шукалі яе родныя, ці спрабавалі высветліць лёс гэтай жанчыны — невядома. У 96-м прыйшоў з Канадскага радыё ліст, дзе паведамлялася аб смерці Рафаіла Палеўскага 29 год таму. Гэта быў адказ на чарговую спробу Ганны Вікенцьеўны штосьці даведацца. У адказе толькі паведамляецца, што сын Віктар з'ехаў у ЗША і ягонае месцазнаходжанне невядомае.

### Без слёз

Ганна Вікенцьеўна жыве бедна. Кажа, што адчувае сабе дрэнна — бо недаядае (не дзіўна: на 240 тысяч што за жыццё). Аднак трымаецца цвёрда і годна, не плача, калі распавядае пра выпрабаванні. Гэты спакой больш уражвае, чым слёзы — яны ўсё выплаканыя. Яна толькі чакае і спадзяецца. І амаль пра ўсё гаворыць у цяперашнім часе, быццам 36 гадоў сціснуліся ў адну доўгую, бясконцую хвіліну.

Гэта была цяжкая хвіліна. Вакол Драўгяліс увесь час стваралі атмасферу запалохвання: людзям забаранялі нават размаўляць з ёю. Яе стараліся абыходзіць бокам. Адзін з быхаўскіх старажылаў узгадвае, што калі «амерыканка» пачала гандляваць на рынку садавінай ды гароднінай, дык міліцыя прымусіла яе — адзіную! — выстаўляць цэтлікі з коштамі: каб пакупнікі не пыталіся, не пачыналі гаворку.

А што распавядала, ці, дакладней, магла распавесці быхаўская «амерыканка», чалавек апалітычны? Са словаў тых жа старажылаў, Ганна Вікенцьеўна не хавала сваіх думак, размаўляла шчыра і адкрыта. І многія яе пачалі лічыць псіхічна хворай. Праўда, усё скончылася добра, у бальніцу не запяклі, але гэбісты не пакідалі ў спакоі да самых апошніх гадоў. У яе знікла большасць фотаздымкаў, зніклі канадскія і амерыканскія адрасы, занатаваныя ў блакноціку. Аркушы з запісамі нехта выдраў, на дзіва застаўся толькі адзін адрас: у ім няма слова *Canada*, відаць, таму і прамінулі.

### Магчыма...

Можа ўзнікнуць пытанне: ну, а што перашкаджае цяпер? Нібыта ў апошнія гады ўсё можна было б вырашыць і з'ехаць. Але ж апошнім часам Драўгяліс ужо стукнула 80. Дый на 200 тысяч у месяц не паездзіш.

Ёсць і яшчэ адна сумная акалічнасць. Жыццё Палеўскай-Драўгяліс не было таямніцай для многіх быхаўчан. Але ніхто за ўсе гады, нават за апошняе дзесяцігоддзе, не зварухнуў пальцам, каб дапамагчы бездапаможнай старой жанчыне. Адны калі-нікалі ўздыхалі з жалем, другія круцілі пальцам ля скроні, трэція — чыноўнікі — перакідвалі клопат адзін на аднаго.

У быхаўскай «амерыканкі» яшчэ захавалася тое-сёе ад таго, канадскага жыцця: пара куфраў, сцізорык з цісненнем лацінскімі літарамі *Montreal*, фотаздымкі, канадскі замежны пашпарт, анкета, якая запаўнялася для атрымання візы ў СССР. Доказы таго, што ўся гэтая гісторыя — не выдумка.

Скептыкі ўздыхаюць і кажуць, што мала шанцаў дапамагчы. Я веру, што шанец ёсць. Вядомы адрас, па якім жыла сям'я Палеўскіх у Канадзе (той самы, што захаваўся): *3262 Beauklerk str., Shampllain V., Montreal, Canada.* Таксама вядомыя прозвішчы сваякоў нябожчыка мужа Рафаіла Палеўскага: Палеўскі Мікалай Віктаравіч, брат мужа, Палеўская Людміла Фёдараўна, жонка брата, Палеўская Зоя Мікалаеўна, іх дачка.

Магчыма, нехта акажацца і дапаможа.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*ПОШТА*

# Как одноклассник однокласснику...

## *Хочу через вашу газету обратиться к своему однокласснику Виктору Шейману — госсекретарю Совета безопасности Республики Беларусь*

Да, Виктор, мы учились вместе в одном классе, сидели за одной партой. И я помню тебя как прекрасного, отзывчивого человека. После 10 класса наши пути разошлись.

Почти 20 лет я проработал на заводе «Оптик», а потом вдруг стал никому не нужен, и меня уволили «по сокращению штатов». Жена временно не работает, дома трое детей. Короче, 300 тысяч рублей «пособие по безработице» плюс 200 тысяч «детские» — и живи как хочешь. Так было целый год. Обратился в суд, увольнение признали незаконным. Но никакой компенсации не выплатили, да и на работе не восстановили. Это было в 1996 году. Теперь уже все позади.

Но суть не в этом — меня волнует совсем другое. Я очень люблю смотреть телевизор, читаю газеты и прекрасно понимаю, что такое свобода, и дорожу этим. Но мне непонятно, почему вы держите в тюрьме Павла Шеремета? Если он виноват, так пусть напишут в газетах, расскажут по телевизору — народ всё поймет. Но, может быть, все это политика? Если Шеремет не виноват, так побеседуйте с Александром Григорьевичем и пускай журналист идет себе на свободу. Все мы ходим под Богом... С уважением

**СОБОЛЬ Иван Иванович,** *г.Лида*

СВАБОДА
1 кастрычніка 1997 г., № 108

*Спецыялісты прагназуюць, што праз пару гадоў у Беларусі будзе каля 300 тысяч уладальнікаў банкаўскіх крэдытных картак*

# Электронныя грошы

**Найбольш папулярныя цяпер у нашай краіне міжнародныя карткі *Visa*, *Eurocard*, *Master Card*. Пакуль іх можна займець у двух беларускіх банках. Карта каштуе каля 90 долараў ЗША. Для адкрыцця рахунка яшчэ патрэбна мінімум 1.300 долараў.**

Картка пазбаўляе неабходнасці насіць у кішэні купюры рознага кшталту. З яе дапамогай лёгка разлічыцца за пакупку ў краме або за вячэру ў рэстарацыі, аплаціць бензін на аўтазапраўцы ці лячэнне зубоў у паліклініцы. Картку прымаюць таксама ў асобных аптэках, цырульнях і касах авіякампаніяў. Пакуль што падобных установаў у Беларусі не густа і карыстальнікаў картак таксама. Хутчэй за ўсё гэта сервіс для адносна забяспечаных людзей, колькасць якіх банкі трымаюць у сакрэце.

Але, як сцвярджаюць самі банкаўскія работнікі, карыстацца крэдытнымі карткамі ў нашай краіне нявыгадна. З валютнага рахунку ўладальнік карткі здымае рубель па курсе Нацыянальнага банка (1 USD — 27 тысяч рублёў з гакам), а ў валютчыкаў, хоць гэта і небяспечна, долары можна памяняць на 4 тысячы даражэй.

Перад тым, як разлічыцца за тавар у мінскай краме, картку абавязкова правераць. Прадавец звязваецца з банкам альбо выкарыстоўвае так званы «стоп-ліст» з пералікам часам каля сотні нумароў картак, якія лічацца падробленымі, згубленымі альбо з пустымі рахункамі. Але махлярства з карткамі пакуль што ў Беларусі не вельмі распаўсюджанае, і банкаўскія службы бяспекі спраўляюцца. Як сказалі ў адным з банкаў, *«кожная аперацыя праходзіць ледзь не ручны кантроль»*. Самі прадаўцы ў крамах старанна правяраюць карткі «на фальшывасць». Калі яны знаходзяць тую ж картку *Visa*, якая заблакавана банкам, атрымоўваюць ажно 60 доляраў у якасці ўзнагароды. Хто знойдзе згубленую картку і прынясе ў банк, атрымае толькі 25 доляраў. Аматары пакарыстацца чужым рахункам усё ж знаходзяцца. У адным з мінскіх рэстаранаў грамадзянін Балівіі паспрабаваў разлічыцца знойдзенай карткай *Visa*, але міліцыянты, як звычайна, не паспелі яго затрымаць.

Да паслуг уладальнікам картак у Мінску ўстаноўлена пяць банкаматаў. Кожны такі апарат каштуе каля 30 тысяч долараў. У гандлёвым доме «На Нямізе» банкаматам карыстаюцца лічаныя разы, таму наўрад ці эканамічна абгрунтавана траціць на іх грошы. «Беларусбанк» набыў банкамат, падключыўся да міжнароднай сістэмы *Visa*, аднак працаваць з гэтымі рэчамі пакуль не пачаў. Прычына ў тым, што большасць нашых банкаў яшчэ не асвоіла міжнародныя стандарты дзейнасці ў гэтых плацёжных сістэмах, не мае падрыхтаваных кадраў. *«Гэтаксама, як кока-кола ў любой краіне павінна мець аднолькавы колер і смак, так і картка павінна мець аднолькавы эфект на любой тэрыторыі»*, — кажа начальнік упраўлення «Белзнешэканомбанка» Алег Прохарчык.

З карткамі, выдадзенымі ў беларускім банку, часам узнікаюць праблемы. Кліент паехаў у Чэхію і не можа зняць грошы. Банк тлумачыць гэта ненадзейнасцю нашых ліній сувязі. Магчыма, яны належаць дзяржаве і часта псуюцца, а пратэставаць няма сэнсу, бо ўладальнік лініі пагражае наогул пазбавіць ліцэнзіі.

## Галоўны тормаз – кепскія тэлекамунікацыі

*«Каб запусціць нацыянальную банкаўскую картку, патрэбна развіць інфраструктуру»*, — гаворыць Алег Прохарчык. Тут ужо пяці банкаматаў не хопіць, як і некалькіх соцень кропак па Беларусі, дзе можна разлічыцца карткай.

Беларуская банкаўская картка ўжо ёсць. Гэта «Белкарт». Карыстацца ёй можна толькі ў Беларусі. Каштуе яна 60 тысяч рублёў і яшчэ 40 тысяч за гадавое абслугоўванне. Першапачатковы ўзнос на рахунак складае каля 250 тысяч рублёў. Ад банкаўскіх спецыялістаў давялося пачуць, што «Белкарт» хутка адамрэ, бо з ёй вельмі шмат клопатаў. Напрыклад, наяўныя можна зняць толькі ў галоўным банку. Асобнымі мерамі ўрад збіраецца даць «Белкарту» другое дыханне.

У бліжэйшы час банкі абяцаюць выпусціць новыя карткі. Банк «Алімп» атрымаў дазвол на выпуск крэдытнай карткі, якая будзе больш зручнай, чым «Белкарт». Назву ёй пакуль не прыдумалі. Мае такую картку і «Белзнешэканомбанк», якой цяпер карыстаюцца толькі супрацоўнікі банка. Яе выдалі бясплатна і пачалі пералічваць зарплату. Наяўныя можна атрымаць праз банкамат альбо купіць тавары толькі ў адной краме (універсаме «Юбілейны»). Для абслугоўвання карткі банк заключыў дамову з крамай і аплочвае спецыяльнае абсталяванне. Пашыраць гэтую інфраструктуру ў банкаў пакуль што не хапае сродкаў.

«Прыорбанк» абяцае запусціць карту, якую можна адкрыць за нямецкія маркі. Для першай тысячы кліентаў яна будзе каштаваць 3 маркі, а для астатніх — 19 DM. Першы ўзнос, які грамадзянін павінен пакласці на рахунак, мусіць быць не ніжэй за 140 нямецкіх марак. Пачне яна «працаваць» з другой паловы кастрычніка, а з наступнага года па такой картцы можна адкрыць другі, рублёвы рахунак.

З наступнага года банкі плануюць пашыраць выпуск рублёвых нацыянальных картак. А.Прохарчык лічыць, што іх укараненне *«спросціць працэдуру атрымання зарплаты альбо куплі тавараў без наяўных грошай»*. Прадпрыемствы ж адмовяцца ад традыцыйных савецкіх касаў, на ўтрыманне якіх ідзе шмат сродкаў. Людзям не давядзецца прастойваць у чэргах перад вакенцам, дзе выдаюць чарговы аванс. Банкаўскія супрацоўнікі, праўда, просяць журналістаў пакуль не бударажыць народ і не палохаць яго карткамі. Каб іх абслужыць, пяці банкаматаў яўна не хопіць. *«Якасць нашых тэлекамунікацый не дазваляе развіваць гэтую сістэму»*, — гаворыць А.Прохарчык. З другога боку, які сэнс пералічваць дзве-тры мінімальныя зарплаты на картку, калі яны разыходзяцца за некалькі дзён.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Белорусская гиря на российских весах

Московская «Общая газета» опубликовала недавно статью Евгения Кожокина под очень характерным названием: «Лукашенко выгоден России».

Почему же выгоден? Потому, что проводит выгодную для России политику. И еще потому, считают в России, что обладает колоссальными возможностями воздействия на население как выразитель особого белорусского менталитета, а значит, еще долго будет находиться у власти. Поэтому его следует воспринимать как данность и стараться поддерживать с ним хорошие отношения.

Более конкретно тот же Евгений Кожокин, директор российского института стратегических исследований, высказался в беседе с обозревателем газеты «Белорусский рынок». По мнению Кожокина, Россия невероятно заинтересована в нормальном функционировании действующих и строящихся нефте- и газопроводов, чтобы Беларусь, подобно Украине, не занималась тарифным шантажом. В экономике, как и в политике, требуется прагматический подход. Имеется в виду, что белорусские предприятия, которые строились в расчете на союзный рынок, теперь могут работать *«на большой и емкий российский рынок»*. В политике же следует избегать создания «квазинадстройки» — надгосударственных органов, подменяющих собой уже существующие в системе государственных органов обеих стран.

Экономический прагматизм — вещь, безусловно, хорошая. Поэтому и Беларусь, и Россия хотят занять одно и то же место — на трубе. С россиянами все ясно, а белорусы потому, что их предприятия-гиганты не могут обойтись без привозного сырья, не могут продать свою продукцию, не могут рассчитаться по своим долгам. Развязывать узлы помогает политика, но и она, кроме бартера, иного выхода предложить не может.

В итоге видимость оживления (заводы дымят, грузы пересекают границы, бухгалтерия делает проводки, а статистики подсчитывают объемы) есть, а реальных денег или нет, или их крайне мало. Поэтому отношения экономических партнеров начинают ухудшаться, а интересы, различные с самого начала, и вовсе расходятся. Можно сказать, что Россия сегодня самая «несоюзная» страна СНГ: объем ее торговли с дальним зарубежьем в 1,7 раза выше оборота внутри Сообщества. Технологическое будущее России напрямую связано с увеличением этой пропорции.

Кстати, почти все страны СНГ за прошлый год сократили торговлю внутри СНГ и расширили с дальним зарубежьем (особенно Украина, а Узбекистан уже давно торгует больше с остальным миром, чем с бывшими согосударственниками) — Беларусь, наоборот, свою тактику строит на более полной интеграции. Год назад отношение торгового оборота РБ внутри СНГ к обороту «снаружи» равнялось 3,4:1, в нынешнем 4,1:1 (май). Стремление Беларуси к самоизоляции в российском лоне ставит под сомнение стратегические перспективы нашей страны, поскольку препятствует адаптации белорусской экономики к изменившимся обстоятельствам.

Такой экономический прагматизм граничит с обыкновенной глупостью. К тому же российский рынок можно считать емким, если принимать во внимание только территорию и численность населения. Но свободных, тем более «лишних» денег для оплаты белорусских товаров там нет. Их не хватает россиянам даже на то, чтобы покупать дешевые и качественные западные товары.




## Союз формальный и реальный

Наполнение союзных договоренностей белорусская сторона связывает с политической интеграцией, с созданием той «квазинадстройки», против которой возражает г-н Кожокин. Такие возражения в сознании интеграторских сил обеих стран выглядят как довольно неуклюжие оправдания нежелания воссоздавать «братский союз». Поэтому у белорусского президента полностью развязываются руки: он то заявляет об информационной войне российских СМИ против Беларуси, то обвиняет своего российского коллегу в недостатке политической самостоятельности, то использует экономические проблемы действующей российской власти как фон для демонстрации собственных успехов (в отчетах минстата РБ в последнее время приводятся избирательные и крайне выгодные для Беларуси сравнения).

Всего и не перечислить. Но впечатление таково, что главный инициатор союза с Россией ведет себя явно не по-союзнически. А все дело в том, что по-настоящему он солидаризируется только с той частью России, которая не приемлет действующую власть. С действующей властью белорусский президент вынужденно сосуществует, а при таком сожительстве иной цели, кроме развода, попросту не может быть.

Политическая конъюнктура в России все время изменяется. И не всегда аргументы действующей власти перевешивают. С приходом в правительство Анатолия Чубайса ситуация существенно изменилась и обострилась. Правительство, допустим, заявляет о необходимости «развести» власть и капитал, а ОРТ устами Сергея Доренко тут же дезавуирует искренность этих намерений и обвиняет «новых реформаторов» в алчном корыстолюбии. Практически он озвучивает мысли белорусского президента на канале, объявленном последним вне закона. Совпадение, конечно, случайное, конъюнктурное, но их становится очень много.

Причин тому несколько, одна из главных — отсутствие политической воли у российских демократов и непонимание того, что на самом деле происходит в Беларуси. Ярко это проявилось в ноябре прошлого года, когда посредническая миссия официального Кремля во главе с Виктором Черномырдиным привела к победе в Минске противников демократии. И не кто иной, а официальный Кремль создал ситуацию, в которой интеграционные козыри принадлежат только росссийской оппозиции и белорусскому президенту. Более того, с тех пор официальные отношения России и Беларуси стали исключительно протокольными, формальными, а неформальные — реальными. Поэтому напрасно сетует Виктор Степанович на вероломство белорусского диктатора: братские поцелуи — это совсем не аргумент в политике.

Именно поэтому белорусский президент не испытывает никакого пиетета к союзу с Россией: подписанный договор формален и останется таковым, а новый союз существует реально, но нуждается только в оформлении. Теперь дело за временем.

И это вполне вероятный сценарий. В России мятежный строй противников демократии возглавил Рохлин, очередной генерал-спаситель нации, вокруг которого кучкуются давно известные фигуры. Иное дело, что, одержав победу, они трофеями белорусского президента, скорее всего, обнесут. И уж точно, не быть ему ни первым, ни даже первым среди равных. И в этом смысле он вполне может разделить политическую судьбу своих нынешних противников — ельцинских реформаторов.

В отношении последних можно сказать следующее. За политические выгоды и в самом деле надо платить. Но только ради них нельзя отрекаться от собственных принципов.

[illegible]

# Авіялайнер разбіўся на самым экватары

**У мінулую пятніцу на выспе Суматра (Інданезія) пацярпеў аварыю аэробус А-300 інданезійскай авіякампаніі Garuda Airlines. Загінула 236 чалавек, не ўратаваўся ніхто.**

Самалёт вылецеў з Джакарты і накіроўваўся ў Медан. Па словах аднаго з супрацоўнікаў Меданскага аэрапорта, аэробус знік з манітораў пасля 13:30 мясцовага часу (5:30 па Грынвічы), за 15 хвілінаў да планаванага прызямлення. Рэшткі самалёта знайшліся побач з вёскай Буа Набар, прыкладна ў 30 кіламетрах ад Медана.




На борце самалёта знаходзілася 222 пасажыры і 14 членаў экіпажу. Большасць пасажыраў складалі інданезійцы, але былі таксама грамадзяне ЗША, Нідэрландаў, Японіі.

Прычынай аварыі мог быць густы дым, які стаяў над аэрапортам на працягу двух дзён. На тэрыторыі Інданезіі вось ужо некалькі месяцаў бушуюць лясныя пажары, многія аэрапорты не працуюць: за дымам нічога не відаць. У некаторых частках Суматры, — вострава, які ляжыць на самым экватары, — бачнасць складае менш за 100 метраў.

Дым ад інданезійскіх пажараў ужо дасягнуў Сінгапура, Малайзіі і Брунэя, дымны шлейф цяпер цягнецца да Тайланда і паўднёвай часткі Філіпінаў. Не выключана, што гэтыя дзяржавы таксама будуць вымушаныя абмежаваць рух авіяцыі.

## *Буйнейшыя авіякатастрофы*

**27 сакавіка 1977 года** два Боінгі-747 авіякампаніяў *KLM* (Каралеўскія нідэрландскія авіялініі) і *Pan American* сутыкнуліся і згарэлі на ўзлётнай паласе ў Санта Круз дэ Тэнерыфе на Канарскіх выспах. На абодвух самалётах было 644 чалавекі, 583 загінулі.

**12 жніўня 1985 года** Боінг-747 японскай авіякампаніі *Japan Air Lines* разбіўся ў Маўнт Осака. Выжылі толькі чатыры чалавекі з 524.

**8 студзеня 1996 года**. Мінімум 350 чалавек загінула, калі грузавы Ан-32, зафрахтаваны ў Расіі, не здолеў адарвацца ад зямлі і ўрэзаўся ў рынак ў цэнтры Кіншасы, сталіцы Заіра (цяпер — Дэмакратычная Рэспубліка Конга).

**12 лістапада 1996 года** Боінг-747 кампаніі *Saudi Arabian Airlines* (Саудаўская Аравія) і казахстанскі грузавы Іл-76 сутыкнуліся ў паветры побач з Нью-Дэлі (Індыя). Усе 350 чалавек загінулі. Гэта найтрагічнейшы вынік сутыкнення двух самалётаў у паветры.

**17 ліпеня 1996 года** самалёт авіякампаніі *TWA* (ЗША), што ляцеў з аэрапорта Кенэдзі ў Нью-Йорку ў Парыж, выбухнуў у паветры над Атлантычным акіянам. Усе 230 чалавек загінулі.

**6 жніўня 1997 года** Боінг-747 паўднёвакарэйскай авіякампаніі *Korean Air Lines*, які ляцеў з Сеула, урэзаўся ў схіл гары на выспе Гуам. 228 з 254 чалавек, што былі на борце, загінулі.

*Падрыхтаваў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Расія можа страціць нафтавы Каспій

**Адміністрацыя прэзідэнта Клінтана і амерыканскія нафтавыя кампаніі ўсё актыўней намагаюцца пакласці канец амаль стогадоваму расійскаму панаванню ў рэгіёне багатага на нафту і газ Каспійскага мора, адзначае газета *Washington Post*.**

Такая пазіцыя цалкам адпавядае мэтам ЗША забяспечыць сябе новымі энергетычнымі крыніцамі, каб не залежаць ад Бліжняга Усходу. У апошнія часы амерыканская адміністрацыя вельмі цёпла сустракала прэзідэнтаў Азербайджана і Грузіі, а цяпер рыхтуецца да візіту прэзідэнта Туркменістана, які адбудзецца ў снежні. А ў лістападзе Цэнтральную Азію наведае Хілары Клінтан.

Што да саміх нафтавых кампаніяў, то іхнія супрацоўнікі сталі курсуюць паміж Вашынгтонам і Баку. Але не толькі Азербайджан трапіў у поле ўвагі. Кампанія *Mobil* адчыніла прадстаўніцтва ў невялічкім нафтавым туркменскім гарадку Небітдаг, куды можна дабрацца толькі па дарозе, па якой пройдзе хіба вярблюд або асёл. У апошні месяц чатыры буйнейшыя кампаніі Амерыкі падпісалі ў Белым Доме пагадненне, паабяцаўшы ўкласці 8 мільярдаў долараў у распрацоўку радовішчаў азербайджанскай нафты. Аднachасова кампанія *Chevron* плануе інвеставаць 20 мільярдаў долараў у Тэнгізскае нафтавае радовішча, што знаходзіцца ў Казахстане і ўваходзіць у дзесятак буйнейшых у свеце.

Амерыканскія афіцыйныя асобы падкрэсліваюць, што яны хочуць займець доступ да шматтрыльённага падземнага скарбу Цэнтральнай Азіі, але не абвастраць пры гэтым адносіны з Масквой. Аднак адміністрацыя амерыканскага прэзідэнта зацікаўленая, каб былыя савецкія рэспублікі, багатыя на нафту, атрымалі незалежнасць ад расійскай «трубы» і накіроўвалі сваю сыравіну непасрэдна на Захад праз сістэму трубаправодаў, мінаючы Расію.

Нядаўна Барыс Ельцын паскардзіўся на ЗША, якія аб'явілі Каўказ *«зонай сваіх стратэгічных інтарэсаў»*. У адказ Дзярждэпартамент ЗША хутка заявіў, што ЗША не прызнае існавання нічыіх зонаў уплыву — ані саміх ЗША, ані іншай краіны.

Поспехі ЗША на Каспійскім напрамку відавочныя. У лістападзе афіцыйныя прадстаўнікі Туркменіі прыбудуць у Х'юстан — нафтавую сталіцу ЗША, — каб правесці аўкцыён па продажы 11 канцэсіяў на распрацоўку нафтавых і газавых радовішчаў у Каспійскім моры. Амерыканскія кампаніі атрымалі 40% акцыяў міжнароднага нафтавага канцэрна АМАК, які пачне пампаваць нафту на Захад ужо ў наступным годзе.

У гэты ж час Кітай і Інданезія паціху асвойваюць казахскія радовішчы, а Турцыя, Пакістан, ізноў жа Кітай разведваюць яшчэ не кранутыя запасы газу ў Туркменістане і Казахстане.

Усё гэта не можа не палохаць Расію, якая яўна прывыкла разглядаць усе былыя савецкія радовішчы як запасы газу і нафты перш за ўсё для сябе.

*Падрыхтаваў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Америка готова расплатиться с ООН

**Раз и навсегда закрыть проблему американской задолженности Объединенным Нациям пообещал президент Билл Клинтон.**

Выступая с трибуны 52-й сессии Генеральной Ассамблеи ООН, он признал, что на всех последних форумах ставилась под вопрос готовность Вашингтона выполнять свои обязательства перед международным сообществом. На сегодняшний день США задерживают выплату около 1,5 миллиарда долларов в казну ООН, что делает эту страну самым крупным должником организации.

Заверив, что Соединенные Штаты остаются приверженными идеалам ООН, Клинтон заявил, что он сделал приоритетным направлением своей работы с Конгрессом подготовку законодательства, позволяющего выплатить основную часть американской задолженности и обеспечить финансирование организации на годы вперед в той части, которая касается США. Вместе с тем, президент вновь высказался за принятие членами ООН «более справедливой шкалы распределения взносов» между государствами. Как известно, Вашингтон давно требует снижения своей доли взносов в регулярный бюджет ООН с 25 до 20 процентов.

Ожидается, что к концу года Конгресс США выделит 900 миллионов долларов на нужды



ООН при условии сохранения нынешнего уровня расходов организации. Кроме того, Соединенные Штаты согласились создать отдельный фонд в размере 400 миллионов долларов, которые, как утверждает ООН, Вашингтон должен мировому сообществу, но что оспаривают Соединенные Штаты.

Как раз в решении финансовых вопросов Клинтон видит одно из важных направлений предстоящего реформирования ООН. По его мнению, сокращение организации — не самоцель. Главное — в повышении ее эффективности. В связи с этим он поддержал усилия генерального секретаря Кофи Аннана, который, по словам президента, *«упорно добивается проведения наиболее глубокой реформы ООН за всю ее историю»*. Клинтон заявил о необходимости принять уже на этой сессии Генеральной Ассамблеи ООН предложенный Аннаном план перестройки организации.

*Итар-ТАСС Экспресс*

# На премию Нобеля – 130 кандидатов

**10 октября в Осло будут объявлены лауреаты ежегодно присуждаемой Нобелевской премии мира.**

Как удалось выяснить агентству *Associated Press*, нобелевский комитет рассматривает 130 кандидатов. Фаворитом считается Международная кампания за запрещение противопехотных мин и ее вдохновитель, министр иностранных дел Канады Ллойд Эксворси. Принцесса Диана, которая принимала активное участие в кампании, среди возможных кандидатов не значится, поскольку Нобелевская премия мира не присуждается посмертно. Известно также, что на рассмотрении комитета находятся кандидатуры творца мирного урегулирования в Боснии американского дипломата Ричарда Холбрука и китайских диссидентов Вей Джиншена и Вань Дана. Как известно, премия мира была учреждена согласно завещанию шведского промышленника и изобретателя динамита Альфреда Нобеля. Ее размер составляет миллион долларов США.

# Турция: черный список

**Турция ввела в силу «черный список» иностранцев, которые лишены права въезда в страну.**

Как сообщает агентство *DPA*, в этот список попали в том числе более двадцати немцев, которые в разное время допустили некорректные высказывания в адрес турецкого правительства в средствах массовой информации. «Черный список» введен в действие правительством Турции несмотря на многочисленные протесты представителей общественности и правозащитных организаций. После этого Турция вряд ли может всерьез рассчитывать на то, что ее примут в Европейский Союз и Совет Европы, отмечает *DPA*.

# США должны ограничить иммиграцию

**К такому выводу пришли эксперты известного аналитического центра «Рэнд Корпорэйшн», сообщает Associated Press.**

По мнению специалистов, в первую очередь должны быть пересмотрены критерии предоставления вида на жительство в США. Сейчас основным критерием являются только родственные связи, поэтому иммигранты пополняют ряды безработных. Это ложится тяжелым бременем на экономику страны. Специалисты предлагают, чтобы главными критериями стали профессиональный уровень и знание английского языка. Исследование было проведено в Калифорнии, которая принимает четверть всех иммигрантов, прибывающих в США. Большинство из них — выходцы из Мексики и Центральной Америки, где у них нет возможности получить полноценное образование.

# Румыния: новый режим для иностранцев

**Румынский парламент принял закон, значительно ужесточающий правила пребывания иностранцев в стране.**

Согласно новому закону, все иностранцы, прибывающие в Румынию, в течение сорока восьми часов обязаны зарегистрироваться в специальном подразделении полиции по надзору за иностранными гражданами. Кроме того, закон предусматривает, что румыны, пригласившие к себе в гости иностранного гражданина, должны уплатить пошлину, приблизительно равную средней заработной плате за три месяца. По мнению наблюдателей, подобные меры можно сравнить только со стилем правления бывших коммунистических властей, которые старательно держали страну за плотным «железным занавесом».

# Европа борется с загрязнением воздуха

**Во многих европейских странах уже давно предпринимаются радикальные меры по борьбе с загрязнением воздуха. В некоторых крупных городах полностью запрещено движение автомобилей в наиболее опасные для окружающей среды дни.**

Например, уже сегодня в Риме ежедневно с 15 до 20 часов, когда уровень загрязнения воздуха достигает катастрофических показателей, разрешено передвигаться лишь на общественном транспорте, на автомобилях, оборудованных специальными каталитическими устройствами, и на мотоциклах. А во Флоренции автомобильное движение полностью запрещено с 8 до 18 часов, причем общественный транспорт — бесплатный.

В Милане ограничение на движение автомобилей действует с 1985 г. С 7:30 до 18 часов проезд в центр города разрешен лишь общественному транспорту, такси, машинам скорой помощи, пожарным и инвалидам. При повышении уровня загрязнения в городе вводится порядок движения по регистрационным номерам (один день для автомобилей с четными, другой — с нечетными номерами).

В Афинах, самой загрязненной столице Европы, приняты еще более строгие меры. С 1980 г. проезд в центр города строго ограничен в зависимости от регистрационного номера автомобиля, а в особо критические дни разрешено движение только автобусов, такси, мотоциклов и машин скорой помощи. Однако существенным недостатком этой системы является неизбежное увеличение интенсивности движения вокруг охраняемой зоны.

В Германии применяется совершенно иная стратегия. В дни с особенно низким уровнем содержания кислорода в воздухе запрещена эксплуатация автомобилей, не оборудованных специальным каталитическим устройством. И хотя сегодня еще не все водители строго подчиняются этому требованию, в 1999 г. будет принят окончательный и обязательный для всех закон.

*По материалам зарубежной прессы и сообщениям информационных агентств*

# Тэлебачанне – памочнік і вораг дэмакратыі

## *Чаму інтэлектуалы выказваюць пагарду да тэлебачання, а палітыкі вымушаныя прызнавацца яму ў любові*

**Рэжы ДЭБРЭЙ**

Вось два тэзісы: ***тэлебачанне служыць мэтам дэмакратыі*** і ***тэлебачанне разбэшчвае дэмакратыю***. Які з іх бліжэйшы да ісціны? Прафесійным стваральнікам тэлевізійных карцінак будзе больш даспадобы першы тэзіс — бо яны з тых карцінак кормяцца. Але прафесійныя стваральнікі ідэй (у шырокім значэнні слова) выкажуцца наадварот.



### Ілюзія роўнасці

Прыхільнікі тэлебачання сцвярджаюць, што яно мае дэмакратычную прыроду, бо *«ўсе яго глядзяць і ўсе пра яго гавораць»*. Што ж, роўныя магчымасці доступу да грамадскага жыцця — абавязковая ўмова дэмакратыі. Тэлебачанне ў значнай ступені аднавіла парушаныя ў індустрыяльнай цывілізацыі сувязі паміж людзьмі: яно дазваляе далучыць да палітычнага жыцця і вялікіх пампезных святаў шматлікія маргінальныя слаі грамадства — старых, хворых, хутаранаў, алкаголікаў і інш. Ніколі раней у палітычным жыцці не ўдзельнічала такая велізарная колькасць людзей, як сёння, і ніколі раней яны не атрымлівалі столькі аднолькавай інфармацыі — якая прымушае галасаваць аднолькавым чынам.

Кажуць таксама, што пераўтвораная ў спектакль палітыка, якая імкнецца ўсімі магчымымі сродкамі спакусіць выбаршчыка, сталася менш элітарнай і цікавейшай для «простых людзей». Праўда: без тэлебачання выбаршчык, які амаль не чытае газет, ніколі не даведаўся б пра самі выбары. Але навошта яны яму?

«Выбраннікі народа» мусяць штодня тлумачыць электарату праз тэлеэкран свае ўчынкі і даводзіць слушнасць сваёй праграмы. Прычым тэлеэкран быццам бы прыводзіць прэзідэнтаў, міністраў і іншых кіраўнікоў у самыя аддаленыя вёскі і мікрараёны. У выніку галоснасць нібыта святкуе перамогу над сакрэтнасцю, грамадзянская супольнасць — над традыцыйна схаванай ад лішніх вачэй машынерыяй улады, кіраўнікі ўсё менш адрозніваюцца ад кіруемых.

Аднак паказальным з'яўляецца і той факт, што ў многіх краінах трэцяга свету развіццё тэлекамунікацый суправаджаецца рэгрэсам дэмакратыі, прычым рытмы гэтых працэсаў супадаюць. Тэлебачанне дэпалітызуе палітыку, адвучае выбаршчыка думаць, вызваляе адказных асобаў ад адказнасці, садзейнічае небяспечнай персаналізацыі ўлады.

### Палітыка, сцэнка з вар'етэ

Кіраваць — гэта прымушаць верыць. У што людзі сёння вераць найбольш ахвотна? У выяву на тэлеэкране. Менавіта яна прадвызначае індэкс папулярнасці палітыкаў, персанальны склад урада, каляндар і змест грамадскага жыцця. Ледзь не палову свайго часу кіраўнік дзяржавы звычайна прысвячае кантактам (у той ці іншай форме) са сродкамі масавай інфармацыі, у першую чаргу з тэлебачаннем.

Тэлебачанне існуе перадусім для таго, каб забаўляць гледача. І структурна, і сутнасна яно нагадвае эстрадны канцэрт. Побач з адказнай асобай тут выступае акцёр, побач з палітыкам — спявак, побач з народным трыбунам — вулічны гімнаст. Нічога дзіўнага, што артысты часам самі становяцца палітыкамі (Рэйган, напрыклад). Грамадская падзея ўсё часцей набывае кшталт вар'етэ, палітыка ператвараецца ў адгалінаванне шоў-бізнесу.

Існуе глыбокае разыходжанне паміж логікай існавання ***Дзяржавы***, гэтай машыны для вытворчасці тэкстаў (законаў, цыркуляраў, дыпламатычных нотаў і г.д.), і логікай спектакля, скіраванага на заваяванне ўвагі і прыхільнасці электарату. На прынцыпова розных падставах будуюцца доўгатэрміновая стратэгія дзяржаўнай палітыкі і штодзённае «напампоўванне» грамадскай думкі. Такім чынам, тэлебачанне (якое напачатку ўцягвае ў палітыку абыякавых да яе людзей) паступова прыводзіць да таго, што **людзі проста перастаюць цікавіцца палітыкай**. У Злучаных Штатах, дзе выбарчыя кампаніі ператвараюцца ў спаборніцтва 30-секундных рэкламных ролікаў, вельмі вялікі працэнт электарату ігнаруе выбары. «Лепшы сродак дэмакратыі» правакуе безадказнасць: людзі ўхіляюцца ад галасавання, а палітыку лепш пакрасавацца некалькі разоў на тэлеэкране з анонсам рэформаў, чым займацца імі ўсур'ёз, — тым больш, што справа гэта няўдзячная.

### Не розум, а грошы

Калі найбольш істотныя падзеі жыцця краіны разгортваюцца на экране, гэта становіцца дадатковым фактарам сацыяльнай няроўнасці.

Вытокам антычнай дэмакратыі дэ-факта і дэ-юрэ была *пісьменнасць*. Менавіта яна зрабіла магчымай роўнасць усіх грамадзянаў перад законам. У



Афінах і Рыме законы высякаліся на спецыяльных табліцах ці стэле і выстаўляліся ў людным месцы, каб кожны мог сачыць за іх выкананнем. Пашырэнне дэмакратыі і павелічэнне адукаванасці людзей ва ўсе часы і ва ўсіх краінах крочылі поруч.

Эпоха тэлебачання найбольш спрыяе тым, хто мае *грошы*, а не *дыпломы*. Дастаткова мець язык, каб падзяліцца з іншымі людзьмі сваімі думкамі. Але каб прапанаваць тэлевізійную выяву мільёнам гледачоў — патрэбны капітал.

Панаванне выяваў у грамадскай свядомасці і панаванне грошай у вытворчасці саміх выяваў паспрыялі прадажнасці палітыкі. Усе нібыта роўныя ў правах, але тыя, хто мае грошы, — *раўнейшыя* за астатніх. Прапаганда ідэй ператварылася ў камерцыйную аперацыю, закуп друкаванай плошчы і эфірнага часу. Шалёныя грошы, неабходныя для перамогі на выбарах ці рэферэндуме, а таксама для штодзённага падтрымання станоўчага вобраза рэжыму («прыгожай карцінкі») прыводзяць да стварэння ценявога бюджэту («чорнай касы») і раскрадання грамадскіх фондаў.

Панаванне тэлеэкрана замінае развіццю плюралізму. Яно спрыяе зусім не росквіту меншасцяў (нацыянальных, палітычных і г.д.), а іхняй прамой ці ўскоснай дыскрымінацыі. Попыт дыктуе прапанову, а тэлебачанне імкнецца быць выразнікам поглядаў большасці, якімі б кепскімі яны ні былі.

Штодня з тэлеэкрана з невялікімі варыяцыямі ад розных палітыкаў можна пачуць: *«Брава, надышоў час перамен, моладзь — гэта наша будучыня, створым разам прагрэсіўную сістэму!»* і г.д. Каб выступаць з поспехам, лепш за ўсё нічога не казаць, а толькі прыемна ўсміхацца. Нуль інфармацыі — бяспройгрышны.

### Хто праверыць?

Дэмакратыя — гэта не ўлада большасці (Гітлер таксама быў абраны нібыта дэмакратычным шляхам), але павага да правоў меншасцяў. Тэлебачанне стандартызуе інфармацыйную прастору. Безумоўна, людзі, калі глядзяць аднолькавыя праграмы, бачаць розныя рэчы, бо інфармацыя фільтруецца праз іхнія сімпатыі і прыхільнасці. Аднак нашая свядомасць не ў стане доўгі час стрымліваць націск вобразаў тэлеіндустрыі — актрыса-зорка можа засланіць у маіх марах вобраз жанчыны, якую я час ад часу сустракаю на суседняй вуліцы.

Экспансія тэлеэкрана псуе дэмакратычныя механізмы. Кароткае замыканне ў стасунках паміж рэгулюючымі органамі — парламентам, друкам, школай, юстыцыяй і г.д. — парушае баланс. Гэта адбываецца і ўскосным чынам — праз вёрстку тэленавінаў: менавіта тэлебачанне вырашае сёння, якія падзеі і праблемы грамадскага жыцця з'яўляюцца найважнейшымі. Добра, калі электронныя мас-медыя трымаюць пад кантролем ініцыятывы ўрадаў, але хто будзе кантраляваць саміх кантралёраў?

Трыумф тэлескрыні зусім не выпадкова супадае з заняпадам парламента і палітычных партый, а таксама ўзмацненнем выканаўчай улады. Аўдыёвізуальныя сродкі масавай інфармацыі на новым этапе гісторыі ствараюць сітуацыю, як у Францыі сярэдзіны XIX стагоддзя, калі Луі Банапарт шчодрай рукой «пасылаў сялянам дождж або добрае надвор'е».

### Мізэрная веліч

Вядома ж, невялікія памеры тэлеэкрана абмяжоўваюць і веліч сучаснага «народнага трыбуна». Тэлевізар прымушае яго стрымліваць эмоцыі, звяртацца да гледачоў у больш інтымнай і дабрадушнай манеры, падшукваць больш простыя і даходлівыя словы. Аўдыёвізуальная камунікацыя ўжо дала свае метастазы ў мову. Мова тэлебачання патрабуе, каб сказы былі кароткія. Шматскладовыя словы ахвяруюцца, прыярытэт надаецца словам, эмацыйна афарбаваным і дынамічным. *Тэлепрапаведнік мае ў запасе каля пяцісот словаў, сучасны палітычны лідэр — таксама*. Больш не трэба.

Дэмакратыя патрабуе, каб грамадзяне былі актыўныя — каб яны рэгулярна збіраліся разам для абмеркавання агульных праблем і для супольных акцый. Трыумф тэлебачання спусташае грамадскую прастору. Рэспубліканская дэмакратыя паўстае дагары нагамі. Грамадскія інтарэсы падпарадкоўваюцца прыватным, законатворчасць — лабіраванню, універсальнае — канкрэтнаму, а суб'ект права (юрыдычны ці палітычны) — самадастатковаму індывідууму. Тэлевізары ў кватэрах грамадзянаў — сапраўдны падарунак для сучасных уладаў (прычым незалежна ад іхняй ідэалогіі: у сакавіку 1997 генерал Макашоў выступіў з заклікам да «патрыётаў» Расіі: «Рускі, выключы тэлевізар!»), бо яны змяншаюць рызыку аб'яднання і бунту незадаволеных.

Чытанне газет не замінае грамадскай актыўнасці. Але пасля з'яўлення тэлебачання прафсаюзныя і палітычныя актывісты ўсё часцей пачалі заставацца дома, на «варце» перад экранам, каб быць своечасова паінфармаванымі пра тое, чым займаецца рэшта іхняга прафсаюза або партыі. Яшчэ менш сэнсу асабіста цягнуцца на сход або чарговую акцыю пратэсту. Усе сядзяць па хатах. На вуліцы выходзяць толькі правадыры: маніфестацыя дазваляе ім трапіць у тэленавіны і паказаць свой твар паплечнікам.

### Шчасце бяссільных

Крах камунізму ва Усходняй Еўропе, як вядома, суправаджаўся і нават быў паскораны экспансіяй індывідуальных свабодаў грамадзянаў. Няма ніякай упэўненасці і ў тым, што змогуць доўгі час суіснаваць наш спажывецкі індывідуалізм і палітычная дэмакратыя. Кожны імкнецца жыць паводле ўласных дробных настрояў і прыхільнасцяў. Было б трохі наіўным бачыць у імперыялізме тэлеэкрана адзіную прычыну сучаснага крызісу дэмакратыі. Мы маем тут справу не толькі з прычынай, але і з наступствам.

Калі тэлебачанне маніпулюе прыняццем палітычных рашэнняў — ці не тлумачыцца гэта тым, што палітычны лідэр ужо па сутнасці нічога не вырашае? І вось пастановы ўрада ператвараюцца ў пустыя словы, міністры запаўняюць палітычную сцэну прыгожымі жэстамі, ап'яненне ад тэатральнай ігры кампенсуе ім маральныя страты ад усведамлення свайго бяссілля.

«Чым менш я значу ў гэтым свеце — тым больш рэчаў, на якія варта паглядзець», — суцяшае сябе шараговы грамадзянін перад сваім тэлевізарам. Дзейная асоба палітычнай сцэны разважае трохі інакш: «Мае намаганні ўсё адно не даюць ніякага выніку — дык паклапоцімся, прынамсі, пра тое, каб належным чынам выглядаць!»

Здольнасць рабіць выгляд — галоўны крытэрый вартасці палітычнага дзеяча эпохі экраннай дэмакратыі. Палітычны тэатр — з'ява вечная (невыпадкова зала паседжанняў парламента звычайна мае форму амфітэатра). Новае тут толькі ў тым, што пры адсутнасці сапраўднай інтрыгі тэатралізацыя дзейнасці кіраўнікоў дзяржавы становіцца іхняй асноўнай дзейнасцю.

Дык ці трэба ўсхваляць тэлевізійную ўладу за тое, што яна стварыла міф пра існаванне ўлады палітычнай?

*Скарочаны пераклад з французскай мовы*
**Юрася БАРЫСЕВІЧА**

## Не подышишь – не поедешь

**Власти американского штата Висконсин планируют ввести новое, по их словам, более гуманное наказание для пьяных водителей, пишет *Chicago Tribune*.**

Предполагается, что попавшиеся с поличным нетрезвые водители будут обязаны за свой счет установить в автомобиле некое устройство, подобие контрольной дыхательной трубки у дорожной полиции. Чтобы включить зажигание, сначала нужно будет подышать в трубку. Если содержание алкоголя в крови превышает 4 сотых процента, зажигание автоматически блокируется. Наличие устройства будет обязательным и безусловным и для нарушителей со стажем, и для тех, кто впервые преступил закон, за исключением малообеспеченных граждан. Муниципальный суд города Мэдисон, столицы штата, надеется, что эта мера сохранит немало жизней и будет более эффективной, чем лишение водительских прав или конфискация автомобиля.

## Всеобщая стерилизация

### *Панацея для бедных стран?*

**Индийская программа семейного планирования предусматривает массовую стерилизацию населения, возмущается французская *Le Figaro*.**

*«Маленькая семья — счастливая сёмья. Двое родителей — два ребенка»*, — под этими лозунгами Индия в числе первых стран в мире официально приступила в 1952 г. к реализации программы снижения рождаемости.

Программа призвана решить проблему резкого роста населения страны и ставит своей целью удержать к 2000 г. население Индии на уровне 1,3 млрд. человек, что примерно будет соответствовать населению Китая в том же году.

Еще в 1976 г. Индира Ганди призвала проявить твердость в этом вопросе и «действовать самым решительным образом». В результате были стерилизованы 6,5 млн. мужчин. Это привело к поражению Индиры Ганди на выборах, а акцент программы был перенесен на женщин: с их мнением в Индии пока не особенно считаются.

Сегодня в Индии стерилизационные центры работают по принципу конвейера. Хирурги, больше напоминающие мясников, хвастаются посетителям, что сократили продолжительность операции до 45 секунд, и жалеют, что закон не разрешает им делать более ста операций в день. В то время как индустриально развитые страны выступают за отмену абортов, индийское правительство наращивает кампанию за сокращение числа детей в семье, обещая за это родителям немного продуктов или мифический надел земли. Однако эта проводимая явно нецивилизованными методами политика семейного планирования не нашла отклика в сердцах простых людей. *«Беднякам нужны дети. У нас нет ни добра, ни богатств — и они наша единственная надежда»*, — говорит индийская женщина.

*Подготовил*
**Владимир АБАНИН**

ТРАДИЦИИ

# Праздник доброго вина

**Добрый херес... разгоняет все скопившиеся в мозгу глупости, мрачности, грубости, делает ум восприимчивым, живым, изобретательным, полным легких, пылких, игривых образов.**

Это не случайные слова — так утверждал шекспировский балагур и жизнелюб Фальстаф, знавший толк в прекрасных винах. Из этого следует, что херес был широко известен, во всяком случае в Великобритании, еще во времена великого драматурга. Не утратил он своей славы и по сей день.

Название вина происходит от имени небольшого андалузского городка Херес де ла Фронтера на юге Испании, неподалеку от порта Кадис. Именно в его окрестностях выращиваются сорта винограда, из которых и готовится херес с его острым и пикантным ароматом, делающим его непохожим ни на какие другие вина.

Но Херес де ла Фронтера известен не только этим. Ежегодно в середине сентября, здесь, а также в других центрах производства хереса проходит знаменитая не только в Испании, но и далеко за ее пределами «вендимия» — или праздник вина, отмечаемый в честь начала сбора урожая. При огромном стечении местных жителей, приглашенных гостей и многочисленных туристов, а также журналистов на ступенях собора Хереса де ла Фронтеры (главный центр праздничного торжества) происходит освящение первых собранных гроздей винограда. По традиции здесь же давят ногами первое сусло. Затем начинается красочный спектакль с обилием музыки, песен и танцев — знаменитых канте хондо и фламенко, с пиршеством, щедро заливаемым хересом.

Едва ли не на следующий день после праздника начинается будничная работа. Часть винограда направляют в давильни, а часть раскладывается на травяных матах, выложенных длинными рядами на несколько дней на просушку, чтобы добиться большей концентрации в ягодах сахара и ароматических веществ. По ночам гроздья укрывают парусиной, чтобы уберечь их от утренней росы.

Еще сравнительно недавно, каких-то 30 лет назад, виноград давили ногами, но не босиком, а давильщики обувались в специальную кожаную обувь, подбитую гвоздями. В результате косточки и содержащиеся в них эфирные масла не попадали в сусло — в противном случае от этого стороннего запаха невозможно было бы избавиться. Давили виноград ночью, когда спадала жара и улетали на покой злые осы, привлекаемые сладким виноградным соком.

Сейчас виноград давят механическими прессами, но качество получаемого сусла, как ни странно, не уступает традиционному, «ножному» способу.

Весь процесс производства хереса не столь сложен, сколь длителен, включает в себя различные этапы. Жесткий контроль не позволяет нарушать существующую уже многие века технологию. Характерно, что культура виноделия, насчитывающая несколько тысячелетий, постоянно менялась. Она возникала, погибала, снова появлялась, но уже в другом виде. И только в Хересе де ла Фронтера сохранилась едва ли не в первозданном виде. И культура эта насчитывает более 3,5 тысяч лет. С того самого момента, когда еще за полторы тысячи до нашей эры финикийцы основали на месте нынешнего Хереса де ла Фронтеры свое поселение Шера.

# Не любишь вино – пей зеленый чай

*Зеленый чай не менее полезен, чем красное вино*

**К такому — весьма спорному — выводу пришли ученые университета штата Канзас, которые провели исследование о пользе зеленого чая.**

Они установили, что содержащиеся в нем вещества в 100 раз эффективнее витамина С и в 25 раз — витамина Е. Они защищают клетки организма человека от вредных воздействий, приводящих к их поражению раком или вызывающих сердечно-сосудистые заболевания. Аналогичный антиоксидант содержится и в красном вине и в обычном чае, однако в значительно меньших количествах.

*«Я не хочу ничего утверждать, но в сочетании с правильным питанием и здоровым образом жизни, зеленый чай сродни страховому полису,»* — заявил профессор университета штата Канзас Лестер Митшер. — *Этот напиток повышает шансы избежать или замедлить развитие болезней, которые связаны со свободными радикалами».*

Хотя нет научных доказательств того, что зеленый чай предотвращает рак или сердечно-сосудистые заболевания, статистика свидетельствует о том, что этот напиток может задержать их развитие по меньшей мере на пять лет. *«К 80 годам редкий человек не имеет той или иной формы рака,* — говорит Митшер. — *Поэтому для каждого из нас очень важно знать о лечебных свойствах различных продуктов».*

Однако следует отметить: профилактическое действие умеренных доз красного вина по отношению к атеросклерозу уже никем не оспаривается: это научно доказанный факт!

## Старейшая жительница планеты помолодела

*Ей всего лишь 117 лет*



После кончины старейшей жительницы планеты знаменитой француженки Жанны Кальман, дожившей до 122 лет, пальма первенства официально перешла к канадке французского происхождения Мари-Луизе Феброни Мейёр, которой в конце прошлого месяца исполнилось 117 лет.

Как сообщает Книга рекордов Гиннесса, за ней с отставанием лишь в один месяц следует американка Сара Кнаусс, родившаяся 24 сентября 1880 г. Лидирующую тройку старейших жителей человечества замыкает американец датского происхождения Кристиан Мортенсен, который отпраздновал свои 115 лет 16 августа 1997 г.

## «Грешок» Неколебимого Фиделя

**Настоящей сенсацией на книжном рынке должна стать автобиографическая книга 42-летней Алины Фернандес — незаконнорожденной дочери лидера кубинской революции Фиделя Кастро.**

В книге, полной детских воспоминаний, Алина называет своего отца бессердечным эгоистом, который разрушил Кубу с помощью коррупции и постоянных репрессий. Кроме того, она обвиняет Кастро в отсутствии отцовских чувств и описывает случай, когда на день рождения в подарок от него получила куклу в человеческий рост — с бородой и в военной форме, очень напоминающую кубинского лидера.

На Кубе эта книга запрещена. Однако, по имеющейся у британской *Sunday Telegraph* информации, несколько экземпляров были тайно привезены в Гавану. Массовый тираж книги на английском языке должен появиться в будущем году.

## Великий алхимик Ньютон

**Весьма неожиданные подробности жизни и деятельности физика Исаака Ньютона открыл его биограф Майкл Уайт.**

Опираясь на сохранившееся рукописи ученого, Уайт утверждает, что Ньютон — не только *«основоположник современной науки, но и последний великий колдун»*. Оказывается, Ньютон был страстно увлечен алхимией и бредил идеей создани «эликсира жизни». А что касается открытого Ньютоном закона всемирного тяготения, то ученый верил, что силой тяжести *«управляет»* Христос. История же *«об упавшем с дерева яблоке»* не больше, чем легенда, выдуманная самим Ньютоном в целях избежания участи остальных еретиков.

Как отмечает лондонская *Sunday Times*, о документах, подтверждающих интерес Ньютона к черной магии, стало известно сразу же после смерти ученого, еще в середине восемнадцатого века. Однако Королевское научное общество тщательно это скрывало, объясняя алхимические пристрастия Ньютона тяжелой психологической травмой, полученной им в детстве.

## Чем старше папа...

**Пол будущего ребенка во многом зависит от соотношения возраста его родителей.**

К такому выводу пришел ученый Джон Мэнинг из Ливерпульского университета. Ученый выяснил, что в тех супружеских парах, где мужчины значительно старше женщин, первым ребенком чаще оказывается мальчик. Те семьи, в которых женщина старше своего супруга, вполне могут рассчитывать на то, что их первенцем будет девочка. Такие данные были получены на основании анализа десятков тысяч историй рождения детей с 1911-го по 1952-й год.

## Четыре вида прекрасного

**Американские ученые «вычислили» четыре самых распространенных типа женщин.**

Первый из них — женщины, придерживающиеся традиционных взглядов на жизнь. Как правило, эта категория слабой половины человечества отличается домовитостью и безграничной преданностью мужу и детям. О карьере деловой женщины они даже не помышляют.

Ко второму типу относятся женщины-рационализаторы. Представительницы это типа стараются везде успеть и нигде не опоздать — ни дома, ни на работе. И что интересно: именно такие женщины чаще других терпят неудачу в бизнесе, от них уходят мужья, а их дети сбегают из дома.

Третья категория женщин — экспансивные дамы, находящиеся в вечном поиске своего «Я». Таких женщин уже в солидном возрасте можно встретить за школьной партой или на курсах по изучению хинди.

И, наконец, четвертый тип — женщины, которым пришлось рано столкнуться с ответственностью. Как правило, это «матери-подростки» или молодые женщины с больными родителями на руках.

Можно, конечно, спорить с этой классификацией, но — так пишет *Times*.

## Безвалютная Россия

**В ближайшее время любой гражданин России сможет переправлять за рубеж через коммерческие банки до двух тысяч долларов ежедневно.**

При этом отпадает необходимость открывать для этого в банке специальный счет и обращаться за специальным разрешением в Центробанк на перевод валюты, как это требовалось раньше. То есть России приближается к нормам банковского обслуживания, принятым во всем мире — делает радостный вывод газета «Сегодня».

Между тем, согласно постановлению Центробанка России, начиная с 10 октября 1997 года все расчеты на территории РФ будут проводиться только в рублях.

*По материалам зарубежной прессы и сообщениям информационных агентств*

СВАБОДА
1 кастрычніка 1997 г., № 108

## Скралі машыну

*Ад офіса ДАІ*

**Не паспелі работнікі Нацыянальнага алімпійскага камітэта РБ нарадавацца, гледзячы на аўтамабіль «Аўдзі-80», перададзены ім пасля канфіскацыі на мытні, як яго і след прапаў.**

А здарылася проста-такі цікавая гісторыя.

Кіраўнік справаў НАКа паехаў на гэтай машыне ў раённую ДАІ, каб аформіць на аўтамабіль неабходныя дакументы. Прыпаркаваўшы «Аўдзі-80» у вызначаным месцы, сам пайшоў у кабінет да службовай асобы. Усяго паўгадзіны прабыў ён там, але гэтага хапіла, каб машына знікла ў невядомым напрамку. Работнікі ДАІ толькі развялі рукамі: ім яшчэ не даводзілася сутыкацца з такой дзёрзкасцю злодзеяў.

*БелТА*

## Лясны волат

**Жыхару Бабруйска Арсенію Іванову пашчасціла знайсці сапраўдны грыб-волат.**

У лесе ён паклаў у свой кошык грыб-дажджавік вагой 12,5 кг, вышынёй амаль у паўметра. Дыяметр грыбной шапкі роўны 1 метру. Ох і паласаваўся дзядзька!

**Іван ЗАСАДА**

## Мазырскі цырк запаліў ліхтары

**Адбыліся прэм'ерныя прадстаўленні Мазырскага цырка «Малыш», які атабарыўся ў невялічкім памяшканні на тэрыторыі гарадскога рынку.**

На арэне працуюць пакуль толькі мядзведзь, факір, клоун і артыстка «лёгкага жанру». Камерная атмасфера (памяшканне ўмяшчае толькі 50 гледачоў) садзейнічае жывому кантакту паміж артыстамі і аўдыторыяй. Гледачы маюць магчымасць не толькі пагладзіць мядзведзя, але і пакатацца на бурым драпежніку.

Цырк ў Мазыры — другі ў вобласці пасля гомельскага.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Конь перамагае трактары?

**У Мазырскім лясгасе падлічылі: падчас прарэджвання лесу і нарыхтоўкі драўніны конь абыходзіцца ўтрая танней за трактар.**

Да таго ж конь і пройдзе там, дзе тэхніцы не прайсці, дый на салярцы зэканоміць можна. Таму і набыў лясгас аж 50 коней, размеркаваўшы іх па ўсіх лясніцтвах.

**У.В.**

## Цiснуць праз газету

**Камунальнікі Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці пачалі друкаваць у мясцовай газеце «Шлях Кастрычніка» прозвішчы тых, хто не плаціць за жыллё.**

Ужо было надрукавана каля 50 такіх прозвішчаў. Сумы запазычанасцяў вагаюцца ад паўмільёна рублёў да 2.253.000 рублёў. Калі пасля публікацыі ў газеце людзі грошай не знойдуць, камунальнікі абяцаюць канфіскоўваць праз суд маёмасць сваіх «ахвяр». Сярод тых, хто трапіў у чорны спіс, пераважна рабочыя і калгаснікі раёна. Ні камунальнікі, ні кіраўніцтва калгаса «Шлях Кастрычніка» не падказваюць, дзе ўзяць людзям грошы ва ўмовах, калі заробкі ім выплочваюць з двух-трохмесячным спазненнем.

**Іван ЗАСАДА**

## Даты і лёсы

### *30 верасня*

**1717.** У шатландскім горадзе Абердзін 19-гадовы Колін МакЛарэн атрымаў прафесарскае званне. Гэты матэматык — самы малады прафесар у гісторыі сусветнай навукі.

**1892.** Нарадзілася выдатная дзяячка беларускага Адраджэння, навуковец, паэтка Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая). Па словах Сяргея Дубаўца, у 70—80-х яе Лясная хатка на ўскрайку Вільні была сапраўдным універсітэтам беларушчыны.

**1912.** У Мінску адкрыліся першая амбулаторыя для хворых на сухоты і станцыя хуткай дапамогі.

**1917.** Нарадзіўся выдатны расійскі рэжысёр, заснавальнік Тэатра на Таганцы Юрый Любімаў, які ў 1984 г. за дысідэнцкую дзейнасць быў пазбаўлены савецкага грамадзянства. Між іншым, у 1952 г. яго ўзнагародзілі Сталінскай прэміяй.

**1929.** Узняўся ў паветра першы рэактыўны самалёт, спраектаваны Францам фон Опелем.

**1937.** Газета ЦК КП(б)Б «Рабочий» была перайменаваная ў «Советскую Белоруссию». Дарэчы, у гады вайны ў прыфрантавой паласе яна выдавалася на беларускай мове.

**1957.** На Магілёўскім металургічным заводзе пайшла першая прадукцыя.

### *1 кастрычніка*

**1880.** Амерыканскі вынаходнік Эдысан адчыніў у штаце Нью-Джэрсі першую фабрыку электрычных лямпачак.

**1935.** У СССР была скасаваная ўсеагульная карткавая сістэма на продаж у мірны час мяса і рыбы, тлушчоў, цукру і бульбы. Былі таксама зніжаныя цэны на хлеб, крупы і макароны.

**1947.** У кастрычніку на Мінскім аўтазаводзе быў выпушчаны першы аўтамабіль-самазвал МАЗ-205.

**1949.** Была абвешчаная Кітайская Народная Рэспубліка на чале са старшынёй Мао Цзэдунам. Большасць краінаў свету, а таксама ААН прызналі КНР толькі на пачатку 70-х. 1 кастрычніка — нацыянальнае свята Кітая.

**1950.** У СССР пракацілася чарговая хваля рэпрэсіяў — так званая «ленінградская справа». Ахвярамі яе былі амаль усе партыйныя і савецкія дзеячы, што былі вылучаныя на кіраўнічую працу з Ленінграда, а таксама ўсё кіраўніцтва Ленінградскай вобласці, горада і раёнаў — агульным лікам некалькі тысячаў. Сталін справакаваў «ленінградскую справу», каб узмацніць трохі аслабелую пасля перамогі ў вайне атмасферу агульнага страху і падазронасці. 1 кастрычніка за «шкодніцка-падрыўную работу» да вышэйшай меры пакарання былі прыгавораныя старшыня Савета міністраў РСФСР М.Радзівонаў, намеснік старшыні СМ СССР М.Вазнясенскі і іншыя кіраўнічыя кадры.

**1969.** Французскі пасажырскі лайнер «Канкорд-001» упершыню пераадолеў гукавы бар'ер.

**1982.** Новым канцлерам ФРГ стаў лідэр хрысціянскіх дэмакратаў Гельмут Коль, які застаецца на гэтай пасадзе і сёння.

**1987.** 48-гадовая місіс Пат Энтані з Паўднёвай Афрыкі нарадзіла ўласных унукаў: яна вынасіла трох блізнятаў замест сваёй хворай дачкі.

**1991.** Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб прызнанні права прыватнай уласнасці на зямлю.

### *2 кастрычніка*

**322 да н.э.** Ад язвы страўніка памёр вялікі грэцкі філосаф Арыстоцель. На пытанне, якую карысць атрымаў ён ад філасофіі, настаўнік Аляксандра Македонскага адказаў: *«Пачаў з уласнай волі рабіць тое, што іншыя робяць са страху перад законам».*

**1187.** Егіпецкі султан Саладзін адваяваў Ерусалім у крыжакаў, якія валодалі Святым горадам 88 гадоў.

**1552.** Маскоўскія войскі ўзялі штурмам Казань. Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што далучэнне Казанскага ханства да Маскоўскай дзяржавы ператварыла яе саму ў Маскоўскае ханства.

**1847.** Нарадзіўся фельдмаршал Пауль фон Гіндэнбург, які ў 1925 г. быў абраны прэзідэнтам Германіі і падчас палітычнага крызісу ў 1933 г. прапанаваў Гітлеру пасаду канцлера краіны.

**1852.** Нарадзіўся шатландскі хімік Ўільям Рамсей, першаадкрывальнік шляхетных (інэртных) газаў. Ён знайшоў у атмасферы аргон і гелій, а таксама навукова падрыхтаваў адкрыццё неона, крыптона і ксенона.

**1925.** На вуліцах Лондана з'явіліся знакамітыя двухпавярховыя чырвоныя аўтобусы — «даблдэкеры». Першыя дзесяць гадоў гэтыя аўтобусы былі без даху над другім паверхам. Сёння аўтобусы з адкрытай «палубай» выкарыстоўваюцца толькі для экскурсій па Лондане.

**1951.** Нарадзіўся англійскі спявак і кампазітар Гордан Самнер, больш вядомы пад мянушкай Стынг («Джала»), таму што ў маладосці пастаянна насіў світэр з жоўтымі і чорнымі палоскамі, як у пчалы ці асы. Пасля распаду гурта *The Police* Стынг з поспехам выступае сола. Шмат сілаў ён аддае ўратаванню трапічных лясоў Амазоніі.

**1977.** Найвялікшы выкуп, які ўдалося атрымаць угоншчыкам самалётаў, складае 6 млн. долараў. Столькі выплаціў японскі ўрад за вызваленне 38 закладнікаў, што знаходзіліся на борце авіялайнера кампаніі *JAL*, які піраты пасадзілі ў аэрапорце г.Дака, Бангладэш.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

**СПОРТ**

# Дзяўчаты дораць радасць

**БІЯТЛОН: НЕ ЧАКАЛІ**

Біятлон ніяк не назавеш масавым відам спорту. Хаця б з-за таго, што заняткі ім звязаныя з выкарыстаннем агнястрэльнай зброі. Але ў нас цікавасць да яго асаблівая. Біятланісты — нашая адзіная надзея на заваяванне алімпійскіх медалёў на маючых адбыцца ў лютым Зімовых гульнях-98 у японскім горадзе Нагана.

У гэтым ракурсе і трэба разглядаць чэмпіянат свету па летнім біятлоне, які адбыўся ў Кракаве. Яго адрозненне ад зімовага ў тым, што спартсмены бягуць па трасе не на лыжах, а на лыжаролерах. У астатнім — стральба па мішэнях, штрафныя кругі — усё гэтак жа.

Прыемна здзівілі беларускіх заўзятараў дзяўчаты. Мы прывыклі да поспехаў Святланы Парамыгінай, але былі незадаволеныя тым, што надзейных дублёраў і перспектыўнай змены сярод маладых няма. Нарэшце можна ўздыхнуць з палёгкай: Ірына Тананайка з Магілёва стала ўладальніцай поўнага камплекту медалёў. Залаты яна заваявала разам з Парамыгінай, Наталляй Пермяковай і Святланай Мароз у эстафетнай гонцы, срэбны — у спрынтэрскай, бронзавы — у гонцы праследавання. Асабліва радуе дакладная стральба Ірыны. Святлана Парамыгіна ў індывідуальных гонках таксама прадэманстравала добрую гатоўнасць — фінішавала 9-й і 6-й.

Яшчэ адну ўзнагароду беларускай зборнай прынёс Вадзім Сашурын, які стартаваў у гонцы праследавання з 12-й пазіцыі (менавіта такое месца ён заняў у спрынце), але змог у выніку фінішаваць 3-м. Алег Рыжанкоў 20-е месца «размяняў» на 12-е. У эстафеце нашыя хлопцы не стартавалі з-за хваробы Рыжанкова і Аляксея Айдарава. 4 медалі — здорава! Каб жа так і ў Нагана!

**ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА: НА ПРЫЗЫ МЯДЗВЕДЗЯ**

Традыцыйны, ужо 28-ы па ліку, турнір на прызы трохразовага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя скончыўся ў нядзелю ў Палацы спорту беларускай сталіцы. У канкурэнцыі з барцамі 18 краін беларусы тройчы святкавалі перамогу, прычым у самых лёгкіх вагавых катэгорыях: лепшым у вазе да 54 кг стаў Герман Кантаеў, да 58 — Вячаслаў Сянёк, да 63 — вопытны Алег Гогаль.

**ВАЛЕЙБОЛ: ПАБІЛІ ЛІДЭРА**

Жаночая зборная Беларусі на чэмпіянаце Еўропы ў Чэхіі пасля паражэння ад каманд Расіі — 1:3 і Латвіі — 0:3 ва ўпартым і прыгожым паядынку перайграла валейбалістак Балгарыі, якія лідзіравалі да гэтага, — 3:2 (15:13, 3:15, 15:13, 9:15, 15:11). Нашым застаецца згуляць са зборнымі Галандыі і Польшчы, у якіх пажадана выйграць.

**БАСКЕТБОЛ: «ГАРЫЗОНТ» У ЛІДЭРАХ!**

Адвыклі мы ад перамог мінскага «Гарызонта». Але дзяўчаты наважыліся зноў прывучыць да іх беларускіх балельшчыкаў. У першым туры Балтыйскай лігі, які прайшоў у Мінску, гаспадыні паслядоўна абыгралі «Малдову» (Кішынёў) — 77:64, «Хвалю» (Санкт-Пецярбург) — 90:54, некалі знакаміты ТТТ (Рыга) — 79:67 і «Лайсвэ» (Коўна) — 66:54. Большасці нашых дзяўчат няма яшчэ і 20, трэніруе іх Анатоль Бульяскі.

35-тысячны горад Асіповічы таксама мае права на гонар і на свята. Асіповічам стукнула 125 гадоў. Юбілею быў прысвечаны турнір з удзелам трох беларускіх клубаў — мясцовага РТІ-АЗАА, «Гродна-93», «Папіруса» (Барысаў) і украінскага клуба вышэйшай лігі «Нафтахім» (Белая Царква). У апошнім матчы РТІ-АЗАА пры бурнай падтрымцы заўзятараў разграмілі «Папірус» — 102:68 і па лепшай розніцы забітых і закінутых мячоў выйгралі галоўны прыз — Кубак машынабудаўнікоў.

**ФУТБОЛ: МАТЭРЫЯЛЬНЫ ФАКТАР**

Мы ўжо пісалі аб матэрыяльных праблемах каманд, якія ўваходзяць ў ЗАТ ФК «Дынама» (Мінск). Мяркуючы па ўсім, менавіта яны цяпер вызначаюць гульнёвы настрой футбалістаў. У 22-м туры ўсе чатыры клубы, аб'яднаныя пад дынамаўскім крылом, гулялі паміж сабою. Вынікі нечаканыя: «Дынама» (Мінск) — «Маладзечна» — 1:1, «Дынама-93» (Мінск) — «Атака» (Мінск) — 1:2. А вось лідэр — бабруйская «Белшына» цяпер на сем ачкоў наперадзе пасля перамогі над наваполацкім «Нафтан-Дэвонам» — 4:1. Замацаваў свае бронзавыя амбіцыі віцебскі «Лакаматыў-96», які разграміў у Слоніме мясцовы «Камунальнік» — 5:0. «Падымаецца з каленаў» гродзенскі «Нёман», які абыграў мінскае «Тарпеда» — 2:0.

Астатнія матчы тура адбудуцца ў панядзелак і аўторак, а гульня МВКЦ — «Днепр» (Магілёў) перанесена на 3 лістапада з-за ўдзелу мазыран у Кубку *UEFA*.

**ТЭНІС: ПАРАЖЭННЕ МАРЦІНЫ ХІНГІС**

Толькі трэцяе паражэнне ў сезоне пацярпела першая ракетка свету 16-гадовая (ўчора ёй споўнілася 17, віншуем!) Марціна Хінгіс (Швейцарыя). У паўфінале турніру у Лейпцыгу (Германія) яна ва ўпартай барацьбе саступіла Амандзе Кётцэр з ПАР. А вось Кётцэр у фінале прайграла Яне Новатнай (Чэхія) — 2:6, 6:4, 3:6.

Амерыканец Піт Сампрас атрымаў чэк на 2 мільёны долараў за перамогу ў Кубку Вялікага Шлема. У Мюнхене ў фінальным паядынку ён выйграў у Патрыка Рафтэра (Аўстралія) — 6:2, 6:4, 7:5.

**ХАКЕЙ: ЧЭМПІЯНАТ У.Е.Х.Л.**

Па аднаму разу выйгралі адзін у аднаго мінскі «Цівалі» і наваполацкі «Палімір» (1:4, 4:2), а гродзенскі «Нёман» двойчы адолеў у Кіеве «Беркута-ПВА» (6:0, 4:1). Цяпер у «Паліміра» 10 ачкоў пасля 6 гульняў, у «Юніёрс-Эсамікі» (Рыга), мінскай «Юнацтва» і «Нёмана» па 6 ачкоў пасля 4 матчаў.

**«ФОРМУЛА-1»: МІХАЭЛЬ ЗДАЕЦЦА?**

Ужо на другім крузе «Гран-пры Люксембурга» сышоў з дыстанцыі лідэр чэмпіянату свету Міхаэль Шумахер — падвёў рухавік «Ферары». Затое пашанцавала яго галоўнаму канкурэнту Жаку Вільнёву («Ўільямс»—«Рэно»). За два туры да фінішу Вільнёў заняў месца лідэра, ды яшчэ з адрывам у 9 ачкоў (!).

**ВЕЛАСПОРТ: ШВЕЙЦАРАЦ У ІСПАНІІ**

У прафесійным спорце ўсё ранжыруецца. Ад рангу спаборніцтваў залежыць прызавы фонд. Іспанская шматдзённая велагонка «Вуэльта» стаіць трэцяй у рэйтынгу такіх спаборніцтваў пасля «Тур дэ Франс» і «Джыра д'Італія». А перамагае на 22-этапнай трасе другі год запар швейцарац Алекс Цуле.

**Сямён ПЛОЦ**

*Яна Новатна святкуе перамогу.*





© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (першы завод — 32.000)
Нумар падпісаны ў друк 30.09.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 359